Народная газета

*Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі*

# Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Беларускай ССР, якія датычацца хранічных алкаголікаў і наркаманаў

У сувязі з прыняццем Закона Беларускай ССР «Аб мерах прымусовага ўздзеяння ў адносінах да хранічных алкаголікаў і наркаманаў, якія сістэматычна парушаюць грамадскі парадак і правы іншых асоб» Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

І. Унесці дапаўненні і змяненні ў наступныя заканадаўчыя акты Беларускай ССР:

1. У Закон Беларускай ССР ад 4 чэрвеня 1970 года «Аб ахове здароўя» (ЗЗ БССР, 1970 г., № 17, арт. 220; 1974 г., № 31, арт. 496; 1985 г., № 32, арт. 449; 1986 г., № 28, арт. 364; 1987 г., № 22, арт. 282):

артыкулы 52 і $52^1$ выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 52. Лячэнне хранічных алкаголікаў

Хворыя хранічным алкагалізмам праходзяць лячэнне ў лячэбна-прафілактычных установах органаў аховы здароўя.

Артыкул $52^1$. Лячэнне хворых наркаманіяй

Асобы, хворыя наркаманіяй, абавязаны праходзіць лячэнне ў лячэбна-прафілактычных установах органаў аховы здароўя. Асобы, у адносінах да якіх ёсць дастатковыя даныя меркаваць, што яны выкарыстоўваюць наркатычныя сродкі не ў медыцынскіх мэтах, абавязаны праходзіць ва ўстаноўленым парадку медыцынскае абследаванне. Пры адмове такіх асоб ад медыцынскага агляду яны могуць быць прымусова шпіталізаваны на тэрмін да дзесяці сутак.

У выпадку, калі па выніках медыцынскага агляду ў адносінах да ўказаных асоб неабходна правядзенне лячэбных мерапрыемстваў, тэрмін іх знаходжання ў лячэбна-прафілактычных установах можа быць прадоўжаны па рашэнню ўрачэбна-кансультацыйнай камісіі да двух месяцаў.

Парадак прымусовай шпіталізацыі для праходжання медыцынскага агляду і лячэння хворых наркаманіяй вызначаецца Міністэрствам аховы здароўя Беларускай ССР па ўзгадненню з Міністэрствам унутраных спраў Беларускай ССР, Міністэрствам юстыцыі Беларускай ССР і Пракуратурай Беларускай ССР».

2. У Крымінальны кодэкс Беларускай ССР, зацверджаны Законам Беларускай ССР ад 29 снежня 1960 года (ЗЗ БССР, 1961 г., № 1, арт. 4; 1973 г., № 10, арт. 164; 1977 г., № 10, арт. 144; 1982 г., № 36, арт. 671; 1987 г., № 22, арт. 282):

а) артыкул 59 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 59. Меры медыцынскага характару, што прымяняюцца да хранічных алкаголікаў і наркаманаў, якія ўчынілі злачынствы

У выпадку ўчынення злачынства хранічным алкаголікам або наркаманам суд, пры наяўнасці медыцынскага заключэння, нараўне з пакараннем за ўчыненае злачынства можа прымяніць да такой асобы абавязковае лячэнне ў папраўча-працоўнай установе.

Указаныя асобы, асуджаныя да мер пакарання, не звязаных з пазбаўленнем волі, накіроўваюцца ў лячэбна-працоўны прафілакторый.

У выпадку ўчынення злачынства асобай, якая злоўжывае спіртнымі напіткамі і ставіць у сувязі з гэтым сваю сям'ю ў цяжкае матэрыяльнае становішча, суд нараўне з прымяненнем пакарання, не звязанага з пазбаўленнем волі, мае права па хадайніцтву грамадскай арганізацыі, працоўнага калектыву або таварыскага суда вынесці пастанову аб устанаўленні над ім папячыцельства»;

б) з пункта 5 часткі першай артыкула 60 выключыць словы «або лячэбна-выхаваўчае», а з часткі другой гэтага артыкула — словы «і лячэбна-выхаваўчых»;

в) у загалоўку і тэксце артыкула $219^7$ выключыць словы «або ўжыванне наркатычных сродкаў без назначэння ўрача».

3. У Кодэкс Беларускай ССР аб адміністрацыйных правапарушэннях, прыняты Вярхоўным Саветам Беларускай ССР 6 снежня 1984 года (ЗЗ БССР, 1984 г., № 35, арт. 505; 1985 г., № 32, арт. 449; 1987 г., № 22, арт. 282):

а) у артыкуле 44:

у загалоўку і тэксце артыкула выключыць словы «або ўжыванне наркатычных сродкаў без назначэння ўрача»;

у заўвазе выключыць словы «а таксама якія добраахвотна звярнуліся ў медыцынскую ўстанову за аказаннем медыцынскай дапамогі ў сувязі з ужываннем наркатычных сродкаў без назначэння ўрача»;

б) у частцы першай артыкула 162 словы «а таксама ўжыванне непаўналетнімі наркатычных сродкаў без назначэння ўрача або ўчыненне імі іншых правапарушэнняў» замяніць словамі «а таксама ўчыненне непаўналетнімі правапарушэнняў».

4. У Папраўча-працоўны кодэкс Беларускай ССР, зацверджаны Законам Беларускай ССР ад 16 ліпеня 1971 года (ЗЗ БССР, 1971 г., № 21, арт. 298):

артыкул 62 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 62. Лячэнне хранічных алкаголікаў і наркаманаў, пазбаўленых волі

Адміністрацыя папраўча-працоўных устаноў забяспечвае лячэнне хранічных алкаголікаў і наркаманаў, асуджаных да пазбаўлення волі, да якіх суд у адпаведнасці з артыкулам 59 Крымінальнага кодэкса Беларускай ССР прымяніў прымусовае лячэнне.

Калі ў час адбывання пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі будзе ўстаноўлена, што асуджаны з'яўляецца хранічным алкаголікам або наркаманам і ў сувязі з гэтым парушае рэжым утрымання, адміністрацыя папраўча-працоўнай установы мае права ўваходзіць у суд з прадстаўленнем аб прымяненні да яго мер медыцынскага характару».

5. У Палажэнне аб камісіях па справах непаўналетніх, зацверджанае Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ад 27 мая 1967 года ў рэдакцыі Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ад 14 лістапада 1985 года (ЗЗ БССР, 1967 г., № 16, арт. 216; 1985 г., № 32, арт. 452; 1986 г., № 28, арт. 364):

а) у артыкуле 10 выключыць словы «лячэбна-выхаваўчых установах», у артыкулах 12, 13, 14 — словы «і лячэбна-выхаваўчых»;

б) з пункта «з» артыкула 14 выключыць словы «ўваходзіць сумесна з адміністрацыяй лячэбна-выхаваўчага прафілакторыя з прадстаўленнямі ў суд аб датэрміновым вызваленні з лячэбна-выхаваўчага прафілакторыя; даваць згоду адміністрацыі лячэбна-выхаваўчага прафілакторыя ўваходзіць у суд з прадстаўленнямі аб пераводзе хворых наркаманіяй, якія дасягнулі васемнаццацігадовага ўзросту, з лячэбна-выхаваўчага прафілакторыя ў лячэбна-працоўны прафілакторый»;

з пункта «м» гэтага артыкула выключыць словы «а таксама даваць згоду адміністрацыі лячэбна-выхаваўчага прафілакторыя на пакіданне хворых наркаманіяй, якія дасягнулі васемнаццацігадовага ўзросту, у прафілакторыі»;

в) з артыкула 18 выключыць пункт «з», пункт «і» гэтага артыкула лічыць пунктам «з»;

г) з часткі чацвёртай артыкула 19 выключыць словы «і спецыяльныя лячэбна-выхаваўчыя», а таксама словы «акрамя лячэбна-выхаваўчых прафілакторыяў для хворых наркаманіяй»;

д) з часткі сёмай артыкула 24 выключыць словы «і лячэбна-выхаваўчых»;

е) з часткі першай артыкула 26 выключыць словы «або лячэбна-выхаваўчай», а таксама словы «акрамя лячэбна-выхаваўчага прафілакторыя для хворых наркаманіяй»;

ж) з часткі першай артыкула 27 выключыць словы «або лячэбна-выхаваўчай».

6. У Палажэнне аб камісіях па барацьбе з п'янствам, якія ўтвараюцца на прадпрыемствах, ва ўстановах, арганізацыях і іх структурных падраздзяленнях, зацверджанае Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ад 14 лістапада 1985 года (ЗЗ БССР, 1985 г., № 32, арт. 450):

у пункце пятым артыкула 6 словы «Аб накіраванні на прымусовае лячэнне членаў працоўнага калектыву, якія з'яўляюцца хранічнымі алкаголікамі і ўхіляюцца ад добраахвотнага лячэння або працягваюць п'янстваваць пасля лячэння» замяніць словамі «аб прымяненні ўстаноўленых Законам прымусовых мер уздзеяння ў адносінах да членаў працоўнага калектыву, што з'яўляюцца хранічнымі алкаголікамі, якія сваімі паводзінамі, звязанымі са злоўжываннем алкаголем, сістэматычна парушаюць грамадскі парадак або правы іншых асоб».

7. У Палажэнне аб камісіях па барацьбе з п'янствам, зацверджанае Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ад 3 лістапада 1972 года ў рэдакцыі Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ад 14 лістапада 1985 года (ЗЗ БССР, 1972 г., № 31, арт. 488; 1985 г., № 32, арт. 451):

а) у пункце «г» артыкула 8 словы «ў адпаведныя медыцынскія ўстановы, лячэбна-працоўныя прафілакторыі, спецыяльныя наркалагічныя аддзяленні» замяніць словамі «якія сістэматычна парушаюць грамадскі парадак або правы іншых асоб, у лячэбна-працоўныя прафілакторыі»;

б) пункт «ж» артыкула 9 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«ж) уваходзіць з хадайніцтвам у суд аб прымяненні ўстаноўленых законам прымусовых мер уздзеяння ў адносінах да хранічных алкаголікаў, якія сваімі паводзінамі, звязанымі са злоўжываннем алкаголем, сістэматычна парушаюць грамадскі парадак або правы іншых асоб».

II. У мэтах рэалізацыі палажэнняў гэтага Закона ажыццявіць наступныя меры:

1. Даручыць Вярхоўнаму Суду Беларускай ССР і Пракуратуры Беларускай ССР арганізаваць перагляд у трохмесячны тэрмін усіх крымінальных спраў у адносінах да асоб, асуджаных за злачынствы, прадугледжаныя артыкулам $219^7$ Крымінальнага кодэкса Беларускай ССР, у тым ліку і па сукупнасці злачынстваў або прыгавораў.

2. Вызваліць ад пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі, ад неадбытага або нявыкананага іншага крымінальнага пакарання асоб, асуджаных па артыкулу $219^7$ Крымінальнага кодэкса Беларускай ССР за ўжыванне наркатычных сродкаў без назначэння ўрача.

Крымінальныя справы, узбуджаныя па артыкулу $219^7$ Крымінальнага кодэкса Беларускай ССР за ўжыванне наркатычных сродкаў без назначэння ўрача, якія знаходзяцца ў стадыі папярэдняга следства або ў вядзенні судоў, падлягаюць спыненню з-за адсутнасці ў дзеянні саставу злачынства.

3. Асоб, вызваленых ад крымінальнага пакарання на падставе пункта 2 раздзела II гэтага Закона, лічыць не маючымі судзімасці.

4. Вызваліць ад нявыкананага адміністрацыйнага спагнання асоб, прыцягнутых да адміністрацыйнай адказнасці па артыкулу 44 Кодэкса Беларускай ССР аб адміністрацыйных правапарушэннях за ўжыванне наркатычных сродкаў без назначэння ўрача або па артыкулу 162 указанага Кодэкса за ўжыванне непаўналетнімі наркатычных сродкаў без назначэння ўрача.

Справы аб адміністрацыйных правапарушэннях, узбуджаныя па дадзеных падставах, вядзеннем спыніць.

III. Гэты Закон уводзіцца ў дзеянне з моманту яго прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР**
**М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**

21 чэрвеня 1991 г.
гор. Мінск.

# Постановление Совета Министров Белорусской ССР

**О нераспространении действия постановления Кабинета Министров СССР от 15 июня 1991 г. № 360 «Об организационных мерах по разработке производственных программ и прогнозов социально-экономического развития предприятий, регионов, республик и Союза ССР на 1992 год в условиях формирования рыночных отношений» на территорию Белорусской ССР**

Основные положения постановления Кабинета Министров СССР от 15 июня 1991 г. № 360 не содействуют продвижению республики к экономической самостоятельности, ставят под угрозу срыва выполнение Государственной программы Белорусской ССР по стабилизации экономики и социальной защите населения. Предусмотренные в нем меры противоречат действующему в республике законодательству по вопросу взаимоотношений предприятий с бюджетом, осложняет ее финансовое положение, увеличивает размер дефицита бюджета. Крайне отрицательное отношение к указанному постановлению было высказано на четвертой сессии Верховного Совета БССР.

Руководствуясь Декларацией Верховного Совета БССР «О государственном суверенитете Белорусской ССР», Законом БССР «Об основных принципах народовластия в Белорусской ССР», в целях защиты имущественных прав и экономических интересов республики Совет Министров Белорусской ССР **ПОСТАНОВЛЯЕТ:**

1. Установить, что действие постановления Кабинета Министров СССР от 15 июня 1991 г. № 360 «Об организационных мерах по разработке производственных программ и прогнозов социально-экономического развития предприятий, регионов, республик и Союза ССР на 1992 год в условиях формирования рыночных отношений» не распространяется на территорию Белорусской ССР, как противоречащего законодательству республики.

2. Настоящее постановление является обязательным для всех объединений, предприятий и организаций, расположенных на территории республики, независимо от ведомственной подчиненности.

**Председатель Совета Министров Белорусской ССР**
**В. Ф. КЕБИЧ,**
**Зам. Управляющего делами Совета Министров Белорусской ССР**
**А. А. СОКОЛОВСКИЙ.**

9 июля 1991 г. г. Минск.

*Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі*

# Аб мерах прымусовага ўздзеяння ў адносінах да хранічных алкаголікаў і наркаманаў, якія сістэматычна парушаюць грамадскі парадак або правы іншых асоб

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

1. Устанавіць, што хранічныя алкаголікі праходзяць, а наркаманы абавязаны праходзіць лячэнне ў лячэбна-прафілактычных установах органаў аховы здароўя.

Хранічныя алкаголікі і наркаманы, якія сваімі паводзінамі, звязанымі са злоўжываннем алкаголем, або ў сувязі з ужываннем наркатычных сродкаў сістэматычна парушаюць грамадскі парадак або правы іншых асоб, могуць быць па рашэнню раённага (гарадскога) народнага суда прымусова ізаляваны на тэрмін ад аднаго да паўтара года ў лячэбна-працоўныя прафілакторыі для іх медыка-сацыяльнай рэадаптацыі з абавязковым прыцягненнем да працы.

Не падлягаюць накіраванню ў лячэбна-працоўны прафілакторый мужчыны, якія не дасягнулі васемнаццаці гадоў і старэйшыя за шэсцьдзесят гадоў або якія хварэюць хранічнымі душэўнымі хваробамі, інваліды I і II груп або тыя, хто мае патрэбу ў спецыялізаваным лячэнні ва ўстановах Міністэрства аховы здароўя Беларускай ССР, а таксама жанчыны.

2. Асобы, накіраваныя ў лячэбна-працоўныя прафілакторыі, карыстаюцца правамі грамадзян Беларускай ССР з абмежаваннямі, што вынікаюць з неабходнасці забеспячэння прымусовай ізаляцыі і медыка-сацыяльнай рэадаптацыі з абавязковым прыцягненнем да працы, устаноўленымі заканадаўчымі актамі Беларускай ССР і Саюза ССР.

3. Рашэнне аб прызнанні асобы хранічным алкаголікам або наркаманам прымаецца камісійна ўрачамі-спецыялістамі ўстаноў органаў аховы здароўя.

Накіраванне асобы ва ўстанову аховы здароўя для абследавання і ўстанаўлення дыягназу аб хранічным алкагалізме або наркаманіі ажыццяўляецца на аснове матываванай пастановы органа ўнутраных спраў.

4. Пры наяўнасці падстаў, прадугледжаных часткай другой артыкула 1, хранічны алкаголік або наркаман падлягае выкліку ў раённы (гарадскі) аддзел унутраных спраў для аб'яўлення яму афіцыяльнага папярэджання аб тым, што ў выпадку парушэння ім у нецвярозым стане або ў стане наркатычнага ап'янення на працягу года грамадскага парадку або правоў іншых асоб будзе ўзбуджана хадайніцтва аб накіраванні яго ў лячэбна-працоўны прафілакторый.

5. Падрыхтоўка і накіраванне матэрыялаў, якія падлягаюць разгляду ў судзе, ажыццяўляюцца органамі ўнутраных спраў.

Асобы, у адносінах да якіх узбуджана хадайніцтва аб прымусовай ізаляцыі і медыка-сацыяльнай рэадаптацыі з абавязковым прыцягненнем да працы, у выпадку ўхілення ад яўкі на медыцынскае абследаванне або ў суд падвяргаюцца прыводу органамі ўнутраных спраў.

6. Матэрыялы аб накіраванні хранічнага алкаголіка або наркамана ў лячэбна-працоўны прафілакторый разглядаюцца пры наяўнасці медыцынскага заключэння раённым (гарадскім) народным судом па месцы яго жыхарства (у адносінах да асоб, якія не маюць пастаяннага месца жыхарства, па месцы знаходжання ў момант узбуджэння хадайніцтва) у тэрмін не звыш дзесяці дзён у адкрытым судовым пасяджэнні з удзелам асобы, у адносінах да якой узбуджана хадайніцтва, і па яе жаданню — абаронцы, з удзелам пракурора, у неабходных выпадках — з удзелам прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў, працоўных калектываў і дзяржаўных органаў, а таксама членаў сям'і або блізкіх сваякоў.

Пастанова раённага (гарадскога) народнага суда можа быць абскарджана асобай, у адносінах да якой яна вынесена, або яе абаронцам у дзесяцідзённы тэрмін з дня яе аб'яўлення ў вышэйстаячы суд або апратэставана пракурорам.

7. Тэрмін знаходжання ў лячэбна-працоўных прафілакторыях асоб, туды накіраваных, адлічваецца з моманту іх прыбыцця ў прафілакторый.

8. Асобам, якія не выконваюць рэжым прымусовай ізаляцыі і медыка-сацыяльнай рэадаптацыі з абавязковым прыцягненнем да працы, а таксама якія адсутнічаюць без уважлівых прычын у лячэбна-працоўных прафілакторыях звыш адных сутак або хоць і менш сутак, але адсутнічаюць паўторна на працягу трох месяцаў, а таксама ў выпадках несвоечасовага вяртання з водпуску, тэрмін знаходжання можа быць прадоўжаны па матываванаму прадстаўленню адміністрацыі прафілакторыя раённым (гарадскім) народным судом па месцы знаходжання прафілакторыя, але не больш чым на шэсць месяцаў. Час адсутнасці ў лячэбна-працоўным прафілакторыі без уважлівых прычын у тэрмін прымусовай ізаляцыі і медыка-сацыяльнай рэадаптацыі з абавязковым прыцягненнем да працы не залічваецца.

9. Пры выкананні рэжыму прымусовай ізаляцыі і паспяховай медыка-сацыяльнай рэадаптацыі з абавязковым прыцягненнем да працы асобамі, якія ўтрымліваюцца ў лячэбна-працоўным прафілакторыі, тэрмін іх знаходжання ў ім па прадстаўленню адміністрацыі, заснаванаму на медыцынскім заключэнні, можа быць скарочаны раённым (гарадскім) народным судом па месцы знаходжання прафілакторыя.

Асобы, якія знаходзяцца ў лячэбна-працоўным прафілакторыі, могуць быць па пастанове суда датэрмінова вызвалены ў выпадку выяўлення прымет хранічнай душэўнай хваробы або цяжкага захворвання, што перашкаджае далейшаму знаходжанню ў гэтай установе.

10. Пастанова суда аб накіраванні асобы ў лячэбна-працоўны прафілакторый з'яўляецца падставай для яе звальнення з работы.

Час знаходжання ў лячэбна-працоўным прафілакторыі не перарывае працоўнага стажу і залічваецца ў агульны стаж. Пры добрасумленных адносінах да працы і выкананні правіл унутранага распарадку асобе, якая ўтрымліваецца ў лячэбна-працоўным прафілакторыі, за гэты перыяд прадастаўляецца водпуск у адпаведнасці з працоўным заканадаўствам. У іншых выпадках ёй выплачваецца грашовая кампенсацыя ў адпаведнасці з адпрацаваным часам.

З заработнай платы асобы, якая ўтрымліваецца ў лячэбна-працоўным прафілакторыі, робяцца вылічэнні на пакрыццё расходаў па яго ўтрыманню, а таксама іншыя ўтрыманні ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

За асобамі, якія знаходзяцца ў лячэбна-працоўных прафілакторыях, захоўваецца права на жылую плошчу па іх ранейшым месцы жыхарства.

Працоўнае і бытавое ўладкаванне асоб, якія вярнуліся з лячэбна-працоўных прафілакторыяў, ускладаецца на выканаўчыя камітэты раённых, гарадскіх, раённых у гарадах Саветаў народных дэпутатаў па месцы жыхарства гэтых асоб ва ўстаноўленым парадку.

11. Уцёкі з лячэбна-працоўнага прафілакторыя або са шляху руху ў прафілакторый караюцца ў адпаведнасці з артыкулам 182 Крымінальнага кодэкса Беларускай ССР.

12. Асоба, асуджаная да пазбаўлення волі за злачынства, учыненае ў лячэбна-працоўным прафілакторыі або да паступлення ў яго пасля вынясення пастановы народнага суда аб прымяненні прымусовай ізаляцыі і медыка-сацыяльнай рэадаптацыі з абавязковым прыцягненнем да працы, пасля адбыцця тэрміну пазбаўлення волі падлягае накіраванню ў прафілакторый на неадбыты тэрмін прымусовай ізаляцыі і медыка-сацыяльнай рэадаптацыі з абавязковым прыцягненнем да працы пры наяўнасці медыцынскага заключэння аб такой неабходнасці.

13. Хранічныя алкаголікі або наркаманы, якія прайшлі прымусовую ізаляцыю і медыка-сацыяльную рэадаптацыю з абавязковым прыцягненнем да працы ў лячэбна-працоўных прафілакторыях, а таксама вызваленыя з папраўча-працоўных і выхаваўча-працоўных устаноў, знаходзяцца пад наглядам у лячэбна-прафілактычных установах па месцы жыхарства на працягу тэрміну, які вызначаецца органамі аховы здароўя.

14. Даручыць Савету Міністраў Беларускай ССР да 1 верасня 1991 года прадставіць у Вярхоўны Савет Беларускай ССР прапановы аб прывядзенні заканадаўчых актаў Беларускай ССР у адпаведнасць з гэтым Законам.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР**
**М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**

21 чэрвеня 1991 г.
гор. Мінск.

*Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі*

# Аб узмацненні адказнасці за парушэнні правіл дарожнага руху ў Беларускай ССР

**У мэтах узмацнення адказнасці за парушэнні правіл дарожнага руху і эксплуатацыі транспартных сродкаў Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі пастанаўляе:**

I. Унесці ў Кодэкс Беларускай ССР аб адміністрацыйных правапарушэннях, прыняты Вярхоўным Саветам Беларускай ССР 6 снежня 1984 года (ЗЗ БССР, 1984 г., № 35, арт. 505; 1985 г., № 21, арт. 302; № 32, арт. 449; № 35, арт. 505; 1986 г., № 12, арт. 151; № 17, арт. 227; № 28, арт. 362; 1987 г., № 18, арт. 236; № 22, арт. 282; № 26, арт. 337; 1988 г., № 12, арт. 194; № 24, арт. 377; 1989 г., № 10, арт. 94; № 11, арт. 99; № 12, арт. 114; № 35, арт. 386; 1990 г., № 6, арт. 80; № 11, арт. 138; № 13, арт. 186; «Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР», 1991 г., № 13 (15), арт. 152, арт. 156), наступныя змяненні і дапаўненні:

**1.** З абзаца трэцяга часткі першай артыкула 3 выключыць словы «дарожнага руху».

**2.** У частцы першай артыкула 15 словы «Да ўказаных асоб не могуць быць прыменены штраф, папраўчыя работы і адміністрацыйны арышт» замяніць словамі «Да ўказаных асоб не могуць быць прыменены папраўчыя работы і адміністрацыйны арышт, а да ваеннаслужачых тэрміновай службы — і штраф».

**3.** З частак другой і трэцяй артыкула 20 выключыць лічбы «118».

**4.** У частцы першай артыкула 29 словы «да трох гадоў» замяніць словамі «да пяці гадоў».

**5.** Частку другую артыкула $110^2$ выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Выкідванне смецця і іншых прадметаў вадзіцелямі і пасажырамі транспартных сродкаў —

цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў размеры ад дзесяці да трыццаці рублёў».

**6.** Артыкул 112 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 112. Парушэнне вадзіцелямі правіл эксплуатацыі транспартных сродкаў

Кіраванне вадзіцелямі транспартнымі сродкамі, у якіх ёсць няспраўнасці тармазной сістэмы або рулявога кіравання, або знос шын ніжэй дапушчальнай мяжы, або неабсталяванымі ў адпаведнасці з дзеючымі нормамі, —

цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў размеры ад дваццаці да пяцідзесяці рублёў.

Кіраванне вадзіцелямі транспартнымі сродкамі, у якіх ёсць няспраўнасці, пры наяўнасці якіх правіламі дарожнага руху забаронена эксплуатацыя, за выключэннем няспраўнасцей, указаных у частцы першай гэтага артыкула, або якія не адпавядаюць патрабаванням па перавозцы небяспечных грузаў, або з габарытамі ці вагой большымі, чым дазволена дзеючымі нормамі без дазволу Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыі і дарожных арганізацый, —

цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў размеры ад дзесяці да трыццаці рублёў.

Парушэнне правіл карыстання моташлемамі або рамянямі бяспекі —

цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў размеры дзесяці рублёў.

Несвоечасовая рэгістрацыя, перарэгістрацыя або непрадастаўленне транспартнага сродку без уважлівай прычыны ва ўстаноўлены тэрмін для дзяржаўнага тэхнічнага агляду, або кіраванне вадзіцелямі транспартнымі сродкамі, не зарэгістраванымі ва ўстаноўленым парадку, або не прайшоўшымі дзяржаўнага тэхнічнага агляду, —

цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў размеры ад дзесяці да трыццаці рублёў.

Кіраванне транспартным сродкам з падробленым ці наўмысна ўтоеным, або іншым чынам змененым дзяржаўным нумарным знакам, а таксама кіраванне транспартнымі сродкамі без прысвоеных нумарных знакаў —

цягне накладанне штрафу ў размеры ад ста да трохсот рублёў.

Учыненне паўторна на працягу года пасля прымянення мер адміністрацыйнага спагнання дзеянняў, прадугледжаных часткай пятай гэтага артыкула,—

цягне накладанне штрафу ў размеры ад трохсот да пяцісот рублёў.

**Заўвага:** Пад транспартнымі сродкамі ў артыкулах $110^2$, 112—119, 121—123, у частцы другой артыкула 129, у артыкуле 130 гэтага Кодэкса трэба разумець усе віды аўтамабіляў, трактары і іншыя самаходныя машыны, трамваі і тралейбусы, матацыклы і іншыя механічныя транспартныя сродкі, а ў артыкулах 115, 119 — і мапеды».

**7.** Артыкул 113 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 113. Перавышэнне вадзіцелямі транспартных сродкаў скорасці руху

Перавышэнне вадзіцелямі транспартных сродкаў устаноўленай скорасці руху да дваццаці кіламетраў у гадзіну —

цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў размеры ад дваццаці да пяцідзесяці рублёў.

Перавышэнне вадзіцелямі транспартных сродкаў устаноўленай скорасці руху больш чым на дваццаць кіламетраў у гадзіну —

цягне накладанне штрафу ў размеры ста рублёў.

Учыненне паўторна на працягу года пасля прымянення мер адміністрацыйнага спагнання дзеянняў, прадугледжаных часткай другой гэтага артыкула, —

цягне накладанне штрафу ў размеры ад ста да двухсот рублёў».

**8.** Артыкул 114 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 114. Парушэнне вадзіцелямі транспартных сродкаў правіл праезду чыгуначных пераездаў

Парушэнне вадзіцелямі транспартных сродкаў правіл праезду чыгуначных пераездаў —

цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў размеры ад пяцідзесяці да ста рублёў, або пазбаўленне права кіравання транспартнымі сродкамі на тэрмін ад шасці месяцаў да аднаго года.

Учыненне паўторна на працягу года пасля прымянення мер адміністрацыйнага спагнання дзеянняў, прадугледжаных часткай першай гэтага артыкула, —

цягне накладанне штрафу ў размеры ста рублёў або пазбаўленне права кіравання транспартнымі сродкамі тэрмінам на адзін год».

**9.** Артыкул 115 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 115. Кіраванне транспартнымі сродкамі ў стане ап'янення

Кіраванне транспартнымі сродкамі вадзіцелямі ў стане ап'янення, а таксама перадача кіравання транспартным сродкам асобе, якая знаходзіцца ў стане ап'янення,—

цягне накладанне штрафу ў размеры ад пяцісот да адной тысячы рублёў або пазбаўленне права кіравання ўсімі відамі транспартных сродкаў на тэрмін ад двух да трох гадоў».

Кіраванне транспартнымі сродкамі асобамі, якія не маюць права кіравання гэтымі сродкамі і знаходзяцца ў стане ап'янення, а таксама перадача кіравання транспартным сродкам асобе, якая не мае права кіравання і знаходзіцца ў стане ап'янення, —

цягне накладанне штрафу ў размеры адной тысячы рублёў.

Учыненне паўторна на працягу года пасля прымянення мер адміністрацыйнага спагнання дзеянняў, прадугледжаных часткамі першай і другой гэтага артыкула, —

цягне накладанне штрафу ў размеры ад адной тысячы да дзвюх тысяч рублёў або пазбаўленне права кіравання ўсімі відамі транспартных сродкаў на тэрмін ад трох да пяці гадоў».

**10.** Абзац другі часткі першай артыкула 116 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«цягне накладанне штрафу ў размеры ад пяцідзесяці да двухсот рублёў або пазбаўленне права кіравання транспартнымі сродкамі на тэрмін ад аднаго года да двух гадоў».

**11.** Артыкул 117 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 117. Кіраванне транспартнымі сродкамі асобамі, якія не маюць пры сабе дакументаў на кіраванне імі

Кіраванне транспартнымі сродкамі асобамі, якія не маюць пры сабе вадзіцельскага пасведчання або талона да яго, даверанасці, рэгістрацыйных або іншых дакументаў, прадугледжаных правіламі дарожнага руху, —

цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў размеры ад дзесяці да трыццаці рублёў».

**12.** Артыкул 118 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 118. Кіраванне транспартнымі сродкамі асобамі, якія не маюць права кіравання

Кіраванне транспартнымі сродкамі асобамі, якія не маюць права кіравання гэтымі сродкамі, а таксама перадача кіравання транспартным сродкам асобе, якая не мае права кіравання, —

цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў размеры ад пяцідзесяці да ста рублёў.

Учыненне паўторна на працягу года пасля прымянення мер адміністрацыйнага спагнання дзеянняў, прадугледжаных часткай першай гэтага артыкула, —

цягне накладанне штрафу ў размеры ад ста да двухсот рублёў».

**13.** Артыкул 119 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 119. Невыкананне вадзіцелямі патрабаванняў аб спыненні транспартнага сродку або ўхіленне ад праходжання агляду на стан ап'янення

Невыкананне вадзіцелямі патрабаванняў работнікаў міліцыі аб спыненні транспартных сродкаў —

цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў размеры ад дзесяці да пяцідзесяці рублёў.

Невыкананне вадзіцелямі неаднаразовых патрабаванняў работнікаў міліцыі аб спыненні транспартных сродкаў або ўхіленне вадзіцеляў транспартных сродкаў ад праходжання ў адпаведнасці з устаноўленым парадкам агляду на стан ап'янення —

цягне накладанне штрафу ў размеры ад трохсот да адной тысячы рублёў або пазбаўленне права кіравання ўсімі відамі транспартных сродкаў тэрмінам на тры гады.

**Заўвага:** Патрабаванне работніка міліцыі, які знаходзіцца ў форменным адзенні, аб спыненні транспартнага сродку выяўляецца шляхам падачы сігналу жэстам рукі, жазлом, свістком або з дапамогай гучнагаворачага ўстройства. Сігналы павінны быць зразумелыя вадзіцелю і пададзены своечасова, каб іх выкананне не стварала аварыйнай абстаноўкі».

**14.** Артыкул 120 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 120. Парушэнне правіл руху пешаходамі і іншымі ўдзельнікамі дарожнага руху

Непадпарадкаванне пешаходаў, а таксама асоб, якія кіруюць мапедамі і веласіпедамі, возчыкаў і іншых асоб, што карыстаюцца дарогамі, сігналам рэгулявання дарожнага руху, пераход праезнай часткі або рух па ёй у неўстаноўленых месцах, невыкананне патрабаванняў забараняючых або прадпісваючых дарожных знакаў, або разметкі праезнай часткі дарог —

цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў размеры дзесяці рублёў.

Учыненне тымі ж асобамі парушэнняў, прадугледжаных часткай першай гэтага артыкула, якія выклікалі стварэнне аварыйнай абстаноўкі, —

цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў размеры ад дзесяці да пяцідзесяці рублёў.

Учыненне парушэнняў, прадугледжаных часткамі першай і другой гэтага артыкула, якія выклікалі ўчыненне асобе лёгкіх цялесных пашкоджанняў або матэрыяльнага ўрону, —

цягне накладанне штрафу ў размеры ад ста да трохсот рублёў».

**15.** Дапоўніць Кодэкс артыкулам $123^1$ наступнага зместу:

«Артыкул $123^1$. Невыкананне кіраўнікамі або іншымі службовымі асобамі прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый прадпісанняў Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыі або Дзяржаўнага тэхнічнага нагляду

Невыкананне кіраўнікамі або іншымі службовымі асобамі прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый прадпісанняў Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыі або Дзяржаўнага тэхнічнага нагляду аб ажыццяўленні ва ўстаноўленыя тэрміны мерапрыемстваў па бяспецы дарожнага руху —

цягне накладанне штрафу на кіраўнікоў або іншых службовых асоб прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый у размеры ста рублёў».

**16.** Артыкул 129 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 129. Пашкоджанне і забруджванне дарог, чыгуначных пераездаў і іншых дарожных збудаванняў

Пашкоджанне дарог, чыгуначных пераездаў, іншых дарожных збудаванняў або тэхнічных сродкаў рэгулявання дарожнага руху, а таксама стварэнне перашкод для дарожнага руху —

цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў размеры пяцідзесяці рублёў.

Правоз грузаў у неабсталяваных кузавах транспартных сродкаў, прычэпах, няспраўнай тары, якія забруджваюць праезную частку або паласу адводу аўтамабільных дарог, а таксама выгрузка адходаў або смецця ва неўстаноўленых мес-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

